Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 19 1-7 верасня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## *Са святам, калегі!*

Віншуем усіх газетчыкаў краю з прафесійным святам– Днём пісьменнасці і друку. Няхай наша слова гучыць на карысць суайчыннікаў, дзеля дабра і стварэння. *Калектыў "Рэгіянальнай газеты"*

## Беларусам у Германіі спадабалася

***Бадай, пакуль рана гаварыць аб тым, што паміж Мядзельшчынай і нямецкай абшчынай Хюльхорст існуюць цесныя сяброўскія сувязі. Неаспрэчна адно: справа паступова ідзе менавіта да гэтага.***

Першае знаёмства адбылося гады з тры таму, калі з абшчыны Хюльхорст у Мядзел прыйшоў транспарт з гуманітарнай дапамогай. Потым немцы запрасілі да сябе на стажыроўку пяцярых спецыялістаў, навучалі іх карысным справам на працягу двух з палавінай месяцаў. Летась і прадстаўнікі абшчыны пабывалі ў нас, адпачывалі на Нарачы, гасцявалі ў сем'ях беларусаў. А нядаўна з двухтыднёвай замежнай паездкі вярнулася група мядзяльчан, якая пабывала ў Хюльхорсце са спартыўна-культурнай праграмай. Узначальваў яе Валерый Койра, галоўны інжынер раённага вузла сувязі. Наш карэспандэнт сустрэўся з ім і задаў некалькі пытанняў:

– Што перш за ўсё ўражвае, калі трапляеш у Германію?

– Пачну з дарог. Яны – добрыя, дагледжаныя нават у сельскай мясцовасці. Немцы не дабіваюць дарогі, як гаворыцца, да ручкі, а пастаянна падтрымліваюць у рабочым стане. Не саромеюцца пры неабходнасці пакласці на асфальт "заплатку". Прычым, зробяць гэта так, што вадзіцель і не адчуе, што тут нядаўна нешта рамантавалі.

Жывуць немцы заможна, але ніколі гэтага не выпінаюць. Апранаюцца сціпла, харчаванне – умеранае, жыллё дыхтоўнае, на вякі. На першым месцы – практычнасць, зручнасць. У прыватнасці, на банкет могуць прыйсці ў джынсах, маечцы і не адчуваюць ніякага дыскамфорту. Жанчыны не злоўжываюць касметыкай, мінімум залатых упрыгожванняў.

– Можа, гэта скупасць?

– Ні ў якім выпадку! Гэта – рыса характару народа. Вазьміце аўтамабілі. Іх, як правіла, у большасці сем'яў некалькі. Аднак той жа "Мерседэс" убачыш адносна рэдка. Затое на вуліцах шмат "Фальксвагенаў", японскіх аўтамабіляў. Яны не такія шыкоўныя, затое больш эканамічныя. Карацей кажучы, там ніхто, наколькі магу меркаваць, не імкнецца "пераплюнуць" суседа. І датычыцца сказанае не толькі аўтамабіляў, але і адзення, будаўніцтва дамоў.

– Скажыце, Валерый Антонавіч, ці шмат у Хюльхорце новабудоўляў?

– Будуюць немцы нямала. У той жа час прыкмеціў такую традыцыю: старыя дамы пры забудовах стараюцца не зносіць, а рэстаўрыраваць. У адным такім "суботніку" удзельнічаў і я з Косцем Галубовічам, газаэлектразваршчыкам райаграпрамтэхнікі. Кожнаму выдалі інструменты, вызначылі канкрэтны аб'ём работ. Многія немцы ахвотна ўдзельнічалі ў падобных мерапрыемствах. Працавалі мы на пакінутым доме, дзе пасля рамонту планавалі зрабіць клуб для адпачынку.

– Валерый Антонавіч, ці даводзілася бываць у дамах нямецкіх сяброў? Калі так, то што там спадабалася?

– Многае. Дворыкі дагледжаныя, шмат кветак. Усе дамы пад чарапіцай. Фасады зроблены прыгожа і грунтоўна, каб не рамантаваць праз кожныя два-тры гады. Дамы сціплыя, але зручныя для пражыцця. Унутры ніхто не развешвае мноства дываноў, не ставіць "для прыгажосці" нікаму не патрэбную мэблю, не захапляецца "калекцыяніраваннем" хрусталю.

Затое практычна ў кожным доме ў пярэднім пакоі даводзілася бачыць нейкі прадмет даўніны. Гэта можа быць калаўрот, лямпа, кола ад фурманкі, куфэрак... Свайго роду – сямейныя рэліквіі. І адносіны да іх адпаведныя.

– А як немцы частуюць гасцей?

– Добразычліва, але сціпла. Празмернасці там не прыняты. Усё тое, што на стале,– смачнае, карыснае для здароўя. Гарэлкі п'юць мала. Затое вельмі паважаюць піва.

– Магазіны ў Германіі багатыя на тавары, ведаюць усе. А якія там цэны?

– Для нас вельмі высокія. Так, хлеб каштуе каля трох марак, бутэлька гарэлкі –14-15, праехаць у аўтобусе восем кіламетраў – тры маркі. Аднак трэба ўлічваць заробак немцаў. Яны зарабляюць, як правіла, не менш дзвюх тысяч марак у месяц. Грунтоўныя там і меры сацыяльнай абароны.

– А што можаце сказаць наконт аўтарытэту абшчыны сярод жыхароў?

– Ён адназначна высокі, бо словы начальства там рэдка разыходзяцца са справамі. Вось такі прыклад. У час нашага знаходжання ў Германіі запланавалі прагулку на веласіпедах. Перад тым, як адправіцца ў дарогу, выступіў бургамістр. Сказаў, што аўтамабілі забруджваюць атмасферу, а веласіпед – экалагічна чысты транспартны сродак. Трэба агульнымі намаганнямі зрабіць атмасферу чыстай. І паехаў з намі 34 кіламетры. А ўзрост у пана Карла Шварцэ сталы. Ехалі, праўда, з прываламі. Але дэталь, на мой погляд, красамоўная.

– Значыць, Валерый Антонавіч, дружбе мацнець?

– Думаю, што так. Дарэчы, цяпер мы рыхтуемся прыняць у сябе нямецкую дэлегацыю, якая павінна прыехаць з візітам у адказ.

***Гутарыў А. Дзягільскі.***

***На здымку:*** мядзельчане выступаюць з канцэртам у Германіі.



## Чорная хмара ахінае Маладзечна. І імя ёй – беспрацоўе.

***Катастрафічная сітуацыя з загрузкай рабочых месцаў склалася ў Маладзечне сёлета. З кожным часам сітуацыя пагаршаецца.***

Як паведамілі рэдакцыі ў гарадскім цэнтры занятасці, у сярэднім каля дваццаці чалавек штодзённа звяртаецца сюды зарэгістравацца, каб атрымаць статус беспрацоўнага. Кіраўніцтва прадпрыемстваў ўжо не імкнецца прымяняць метады ўгавораў рабочых і служачых, каб тыя самі падавалі заявы на звальненне па ўласнаму жаданню. Відаць, цяжкае фінансавае становішча прымушае лепш афіцыйна скараціць чалавека і выплаціць неабходную кампенсацыю, чым трымаць яго няведама колькі часу.

Зразумела, не ўсе ахвотна пакідаюць звыклыя месцы. Прычына вядомая: а куды дзенешся? Хто памаладзей, пасмялей, спрабуюць сябе ў прыватным гандлі. І, відаць, даволі нядрэнна ў многіх атрымліваецца. Неяк на гарадскім рынку давялося сустрэць знаёмага. На пытанне, якім чынам сумеў раскруціцца, ён адказаў так: "Атрымаў на заводзе ўсе выплаты з выпадку скарачэння– а гэта амаль дзвесце "баксаў",– паехаў ў Гродна, накупіў тавару па аптовай цане, прадаў. І вось так кручуся".

Смяецца, успамінаючы завадскія будні. Па яго словах, зарабляць стаў лепш і працаваць у ахвоту.

Што тычыцца сярэднямесячнай зарплаты на прамысловых прадпрыемствах горада і раёна, то, па дадзеных аддзела статыстыкі, яна склала ў чэрвені 753,7 тысячы рублёў. Калі параўнаць з іншымі, то гэта крыху больш, чым у калгаснікаў (485,7 тыс. руб.), але намнога меней, чым, скажам, у сувязістаў (1179,2 тыс. руб.), будаўнікоў ( 1066,6 тыс. руб.), работнікаў геафізікі (1393,9 тыс. руб.), інфармацыйна-вылічальнага абслугоўвання (1142,1 тыс. руб.), банкаўскіх устаноў (1301,3 тыс. руб.) і супрацоўнікаў органаў кіравання (1155,9 тыс. руб.).

На апошнім сваім пасяджэнні, якое прходзіла пад старшынствам першага намесніка кіраўніка гарвыканкома Яфіма Ідэльчыка, камітэт указаў на неабходнасць прыняць меры па стабілізацыі і аздараўленню фінансавага становішча прадпрыемстваў, выкарыстоўваць магчымасці па прыватызацыі, прыцягненню пабочных інвестараў.

Але асаблівую ўвагу прапанавалася звярнуць на захаванне сацыяльнай стабільнасці ў калектывах, своечасова прымаючы ўсе магчымыя меры па папярэджванню працоўных канфліктаў.

***Вікторыя Маркевіч***

## "Жалезны рыцар" здаў пазіцыі

***ІВЯНЕЦ. Бадай, сусветную вядомасць прынесла Івянцу не толькі старажытнае мастацтва керамікі, але і імя жалезнага рыцара рэвалюцыі, паплечніка Леніна Фелікса Дзяржынскага. Менавіта дзякуючы апошняму і адкрыўся ў гарпасёлку ў 1957 годзе музей з 6 экспазіцыйнымі заламі. Натоўп экскурсантаў павялічваўся ў летнія месяцы, але не слабеў ніколі. Замежныя дэлегацыі, будучыя і тагачасныя супрацоўнікі органаў КДБ і міліцыі, проста турысты лічылі за гонар наведаць музей Дзяржынскага і яго родавы маёнтак у Дзяржынаве (філіял).***

Цяпер усё крута змянілася. Каб выжыць у цяжкіх умовах, калі не толькі імя жалезнага Фелікса, але і ідэі камунізму патаптаны, не выклікаюць ранейшых эмоцый, музей перапрафіляваны. Яго залы і запаснікі аддадзены мастацкім промыслам - кераміцы, ткацтву, чаканцы, жывапісу, разьбе па дрэве і інш. Выявілася, што жыхары Валожыншчыны настолькі таленавітыя, што двухпавярховага будынка мала, а экспанатам - цесна. Ёсць пастаяннна дзеючыя экспазіцыі, напрыклад, работы знакамітага івянчаніна-разьбяра па дрэве Апалінарыя Пупко, ёсць і тыя, што мяняюцца. Цяпер тут дзейнічае выстава керамікі, прысвечаная 55-годдзю з дня нараджэння галоўнага мастака івянецкага завода мастацкай керамікі Пятра Леўкавіча Скрыпкі. За 27 гадоў ім створана шмат твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Штат музея невялікі: дырэктар, тры навуковыя супрацоўнікі, захавальнік фондаў. Людзі ўсе творчыя, улюбёныя ў народную творчасць, занятыя пастаяннымі пошукамі ўзораў керамікі, ткацтва, прадметаў хатняга побыту мінулых стагоддзяў. У фондах - вочы разбягаюцца! Усё сабранае праз некаторы час убачаць наведвальнікі.

Шкада толькі, што яны зусім рэдка адчыняюць дзверы музея. За 6 месяцаў тут пабывалі ўсяго 23 групы экскурсантаў, каля пяцісот чалавек. Некалі столькі перабывала за адзін дзень.

... Натуральна, у закутку тоіцца тое, што засталося ад былога гаспадара музея, ад ранейшай экспазіцыі, прысвечанай Дзяржынскаму. Пры жаданні вас могуць туды завесці, паказаць і расказаць, але жадання такога ні ў кога не ўзнікае.

## Яшчэ страляюць у белых лебедзяў

***Лебедзь-клікун у нашай мясцовасці сустракаецца рэдка. Менавіта па гэтай прычыне паляванне на яе забаронена.***

А тут у пачатку ліпеня на беразе канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы паблізу Ілы раздаўся стрэл. І ўпаў, як падкошаны, лебедзь-клікун, распластаўшы на зямлі шырокія крылы, адкінуўшы гордую галаву.

Не паспеў аднак паласавацца далікатэсным мясам жыхар Мінска Уладзімір Малько, што страляў па птушцы з незарэгістраванай стрэльбы.

Дзеянні яго якраз адпавядаюць артыкулу 163 ч. 2 Крымінальнага Кодэксу РБ, а прыродзе Вілейшчыны нанесены буйны ўрон.

Іван ГУРСКІ.

## Былы мэр Маладзечна падаў у суд на Прэзідэнта РБ. І думае выйграць два мільярды рублёў.

Прычынай таму было сцвярджэнне Аляксандра Лукашэнкі ў інтэрв'ю сібірскаму тэлебачанню аб мэтанакіраванай зрыўцы паставак бавоўны з Узбекістана на Беларусь групай палітыкаў, сярод якіх называўся і Генадзь Карпенка. У інтэрв'ю сродкам масавай інфармацыі рэспублікі Генадзь Дзмітрыевіч выказвае спадзяванне, што гэтых грошай хопіць для таго, каб купіць пару вагонаў бавоўны баранавіцкім ткачыхам.

## Як цётка Алена пусціла чырвонага пеўня

***ВІЛЕЙКА. Вестка аб незразумелых начных пажарах у невялічкай вёсцы на Мядзельшчыне ўскалыхнула наваколле. На Вілейшчыне, у вёсцы Лясныя Вязынскага сельсавета, таксама ярка ўспыхнуў хлеў у Антаніны Васюкевіч.У летнюю спёку гэта не дзіўна было б, калі б не адна акалічнасць.***

Калі стрэльба раз у год страляе сама, то з "чырвоным пеўнем" такога не здарылася, каб ён пайшоў гуляць сам па сабе. Сталі шукаць прычыну.

Суседзі заўважылі на месцы здарэння жыхарку вёскі, пенсіянерку Алену Філістовіч і вельмі хутка высветлілі, што менавіта з яе лёгкай рукі ўспыхнуў у вёсцы пажар.

Алену Віктараўну Філістовіч у Лясных ведалі. Любіла кабета прыкласціся да чаркі, іншых клопатаў не зважала, а, кульнуўшы келіх-другі, пагражала суседзям, што спаліць іх усіх. Да яе пагроз прывыклі, на іх не звярталі ўвагі. Пакуль ад слоў Філістовіч не перайшла да справы.

Аб'ём нанесенага ўрону і меру пакарання віноўнай вызначыць суд. Дзіўна толькі, што вясковая жанчына не ўсвядоміла, якой небяспецы падвяргае сядзібы сваіх аднавяскоўцаў і сваю таксама, такім чынам зводзячы рахункі з нядобразычліўцамі.

## Папужаў жонку ды суседзяў

***ВІЛЕЙКА. У адзін са жнівеньскіх вечароў жыхары дома N 25 па вуліцы Гагарына былі гледачамі рэдкага для нашага горада відовішча. Ля пад'езда жылога дома падраздзяленне супрацоўнікаў міліцыі ў бронежылетах і з аўтаматамі ішло на штурм. Праўда, аўтаматныя чэргі ніхто так і не пачуў, затое чуваць было адзіночныя ружэйныя.***

Меркаванняў наконт выпадку было шмат. Аптымісты казалі, што міліцыя затрымлівала буйнога мафіёзі або ўзброенага рэкеціра, песімісты сцвярджалі, што проста была вучэбная трывога.

На справе рацыі не мелі ні тыя і ні іншыя. Адзін з жыхароў дома ў нецвярозым стане нечага не падзяліў з дамачадцамі, схапіў паляўнічую стрэльбу і стрэліў уверх. Каб затрымаць яго і не падставіць пад выпадковую кулю сваіх супрацоўнікаў, міліцыя і вымушана была пайсці на такі крок.

***Аддзел інфармацыі***

## Свет паглядзець– сябе паказаць

***ВАЛОЖЫН. Цеснае супрацоўніцтва педкалектыву сярэдняй школы N 1 Валожына з дабрачынным фондам " Дзецям Чарнобыля" дае свой плён. З дапамогай фонду паехалі пяць гадоў таму на аздараўленне ў Польшчу і Германію вучні школы. Затым пачалося " асваенне" Японіі, Швейцарыі, а далей проста падтрымліваюцца ўзнікшыя сяброўскія сувязі.***

Толькі гэтым летам на аздараўленні пабывалі 76 вучняў розных класаў, практычна кожны дзесяты. У Швейцарыю паехалі 9 пяцікласнікаў, якія да гэтага ніводнага разу не перасякалі граніцу Беларусі, а ў другую "швейцарскую" групу ўвайшлі тры школьнікі, якіх выклікалі ў сем"і па запрашэннях.

За час летніх канікулаў тры групы падлеткаў пабывалі ў Германіі. Дарэчы, з першых дзён утварэння дабрачыннай арганізацыі яе актыўным членам і прапагандыстам з"яўляецца настаўніца нямецкай мовы Вольга Маісееўна Косік. Па яе ініцыятыве ў СШ N 1 створана ячэйка фонду "Дзецям Чарнобыля".

30 выхаванцаў Івянецкага дзіцячага дома-інтэрната ў канцы ліпеня ў складзе дзвюх груп таксама выехалі на аздараўленне ў Германію па лініі гэтага фонду. А восем дзяцей-інвалідаў упершыню праводзяць канікулы ў сонечнай Італіі.

Наогул, у самім Валожыне і навакольных вёсках нярэдка можна пачуць нямецкую, польскую, англійскую, італьянскую мовы. Замежныя гаспадары юных валожынцаў прыязджаюць з візітамі ў адказ.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

Так і жывём

## САМАГОНШЧЫКІ

Не сакрэт, што апошнім часам усё больш людзей аддаюць перавагу ў сваіх алкагольных прыхільнасцях не вырабам адпаведных заводаў. Звычайны самагон перамагае "магазінку" ніжэйшым коштам, часам вышэйшай якасцю. Рэдкае маштабнае застолле абыходзіцца цяпер без самаробнага прадукта.

"Усё на свеце выпадкова",- аўтару незнарок давялося стаць сведкам размовы, калі суседзі за сталом абмяркоўвалі перавагі ўласнага прадукта. Так і з'явіліся гэтыя нататкі.

...Пад'ём а чацвертай гадзіне раніцы. Хуткі сняданак, і яшчэ ў прыцемках на машыне выязджаем у лес (неабходны "рыштунак" падрыхтаваны і пагружаны з вечара).

На выездзе з вёскі абсалютна выпадкова патрапляем на машыну ДАІ. Капітану і сяржанту ўсё зразумела (у кузаве мука, салярка), але фармальна зачапіцца няма за што, таму нам выпісваюць штраф за парушэнне правілаў дарожнага руху, а капітан даволі нахабна "рэквізіруе" (без пратакола, натуральна) вельмі неабходную ў нашай гаспадарцы жалезку толькі што зробленую ўмелымі рукамі з нержавейкі.

Але рабіць няма чаго: пойдзеш на прынцып – у далейшым жыцця не будзе. Хвілін колькі чакаем і едзем па сваім маршруце. Работа наперадзе вялікая: перавезці апарат на новае месца, размясціцца, запарыць тры мяшкі мукі...

... А дзевятай гадзіне ў парніку кіпіць вада, размешчаны і ўчэплены ёмістасці для брагі, падключаны сухапарнік і халадзільнік. Неўзабаве запарваецца мука, крыху больш як праз гадзіну "заводзім" і ўкідваем дрожджы, затым ёмістасці закрываюцца і маскіруюцца (каб з верталёта нельга было ўбачыць)...

Усё. Вогнішча пад парнікам залітае вадой, дні з тры рабіць тут няма чаго.

Я не буду расказваць аб "згонках" брагі. Зазначу толькі, што гарэлка ніжэй 40-42 градусаў тут не вырабляецца (спіртометр пастаянна ў справе), у лабараторных умовах рэгулярна праходзяць праверкі на сівушныя алеі, робіцца аналіз выкарыстоўваемай вады. Дарэчы, усім знаёмы фільм "Самагоншчыкі" з Нікуліным, Віцыным ды Маргуновым да нас не падыходзіць: цукар мы практычна не выкарыстоўваем, а на час "згонкі" – сухі закон. Не кажу пра строгія супрацьпажарныя меры, падтрымліванне чысціні і парадку вакол, выкарыстоўванне для распальвання толькі сухіх дрэў, павалу.

Мне пашчасціла на знаёмства, таму гэтае невялічкае апавяданне атрымалася крыху ідэалістычным. Хаця не прыдумана нічога.

У нашых лясах стаіць шмат самагонных апаратаў, існуюць нават цэлыя "партызанскія зоны". Кормяцца з іх непасрэдна вытворцы (а гэта цяжкая праца!), участковыя, ляснікі, некаторыя іншыя людзі. Сярод заказчыкаў – дырэктары прадпрыемстваў, работнікі выканкамаў, праваахоўчых органаў, звычайныя "алканаўты", бацькі нявест і жаніхоў.

Упарта не хоча "ўвайсці ў долю" толькі дзяржава. Здавалася б, наладзь кантроль за вытворцамі "вогненнай вады" (далёка не ўсе звяртаюцца ў лабараторыі ды клапоцяцца пра якасць прадукта) і рэгулярна збірай падатак. Менавіта так зрабілі на Украіне, у Расіі. Выгада відавочная. Тым болей, што пры такой пастаноўцы справы значная частка вытворцаў адсеецца.

... А чытачам, калі на тое будзе іх жаданне, магу прапанаваць з дзесятак праверaных рэцэптаў брагі, класічныя ўстройствы для атрымання "канцавога прадукта".

***Спірыдон Цвярозы.***

Пяць хвілін з пісьменнікам

## ДЗІМКА

Я еду адпачываць у сваю родную вёску. З Маладзечна даехаў да Мазыра і спыніўся на аўтавакзале, каб потым перасесці на лельчыцкі аўтобус. І не заўважыў, як да мяне падселі двое: маладая жанчына і хлопчык. «Маці і сын»,– зразумеў я. Жанчына прытульвала малога да сябе, ласкава гладзіла яго па галоўцы:

–Хутка, Дзімка, будзем дома. Там нас сустрэне бабуля.

– Ага,– выдыхнуў нейкім старэчым голасам хлопчык.

На яго я і звярнуў увагу.Было на выгляд хлопчыку гадоў дзесяцьадзінаццаць. Апрануты ў цёплую блакітную куртачку, абуты ў кеды, на галаве спартыўнага крою шапачка-пеўнік. Асабліва кінулася ў вочы тое, што шыя хлопчыка была абвязана марляю.

–Прастудзіўся?– спытаў я ў жанчыны.

–Дзе там!– махнула яна рукою. – Шчытавідка. Трэці год ўжо кволіцца на горла. Куды яго толькі ні вазіла, дзе толькі ні лячыла– нічога не памагае. Вось і зараз з Гомеля едзем. Два месяцы ляжаў там у анкалагічнай бальніцы. Цяпер дамой едзем, у Камарын. Трохі пабудзем дома і зноў у бальніцу. Вось што нам радыяцыя нарабіла.

Адказала спакойна, нібы паведаміла пра звычайную будзённую справу– звыклася, няйначай, за гэтыя тры гады са сваім горам,– хоць у яе голасе адчуваліся трывога і адчай за здароўе сына.

І зноў пачала шкадаваць, прытульваць да сябе сына:

– Бабулька, Дзіма, нас чакае. Гасцінцаў табе падрыхтавала.

Хлопчык маўчаў.Яму, разумеў я, цяжка было гаварыць, бо балела горла.

–Цяпер на аздараўленне возяць чарнобыльскіх дзяцей за мяжу. Адправілі б і вы свайго Дзімку, – параіў я жанчыне. Параіў і тут жа зразумеў, што сказаў нешта не тое, балюча закрануў сэрца маці, бо голас жанчыны задрыжэў:

– Яго ж лячыць трэба, а не аздараўляць! Аперацыю трэба рабіць за мяжою. А дзе я грошы вазьму на гэта? Калгасніца ж я. І ўжо трэці год не раблю. Усё па бальніцах з сынам езджу.

Я зірнуў на маці Дзімкі– тая ўжо плакала, выціраючы хусцінкай вочы.

– Не плач, мама,– вырваўся раптам хрыплы голас з вуснаў хлопчыка.– Не трэба мне тая аперацыя. Я сам папраўлюся.

Цяпер ужо сын шкадаваў і суцяшаў маці, гладзіў яе руку, што ляжала ў яго на каленях.

Сэрца маё балюча сціснулася. І я, разгублены, каб неяк суцешыць, задобрыць сына і маці, суняць іх гора, палез у сваю сумку, выняў з яе кулёк цукерак і працягнуў хлопчыку:

– Вазьмі, Дзімка!

Ён зірнуў мне ў вочы ўдзячлівым позіркам, але цукерак чамусьці не браў, саромеўся.

–Бяры, бяры, у мяне іх багата. Поўная сумка.

Ён нясмела працягнуў руку, узяў кулёк з цукеркамі і запіхнуў яго ў кішэню курткі.

– Сам есці не буду. Бабулі цукеркі завязу. Хай смокча.

Людзі вёскі

## СЛІЎЧЫХА

***Едучы па кароткай дарозе з Адамава ў Вішнева (ёсць такая вёска на Валожыншчыне), міжволі звернеш увагу на прыгожую, з усіх бакоў акружаную дрэвамі і мурожнымі лужкамі сядзібу. З тыльнага яе боку нават жывапісна прымасціўся бярозавы гаёк, дзе ўвосень добра родзяць баравікі і апенькаў на кожным пні – кошык. 71 год – усё сваё жыццё – жыве на гэтым хутары Ніна Ігнатаўна Сліўко, якую па прозвішчы ва ўсёй ваколіцы клічуць Сліўчыхай.***

Адзін з былых старшыняў мясцовага калгаса імя Чарняхоўскага хацеў спілаваць яе лясок, адрэзаць сенажаць. Маўляў, навошта столькі адной. Пайшла Ніна Ігнатаўна ў райком абараняць свой хутар. Па-сялянску проста пачала распавед у кабінеце першага сакратара пра сваё жыццё. Ды хіба раскажаш коратка і без слёз аб тым, як 1 ліпеня 1941 года з'явіліся ў іх хаце нямецкія дэсантнікі і забралі, каб потым расстраляць, яе бацьку і двух братоў. Бацька да вайны быў старшынёй сельскага Савета, можа за гэта захацелі паквітацца з ім, а заадно і з яго сынамі фашысты? Як у 43-ім партызаны прынеслі ў хату да яе, маладзенькай жонкі і маці, чорную вестку аб гібелі мужа. Як уставала ў чатыры гадзіны раніцы і з дня ў дзень, з месяца ў месяц праз палі напрасткі бегала ў суседнюю вёску Нгровы, дзе 15 год загадвала фермай, а потым да цямна працавала на сваёй гаспадарцы. Будавалася, расціла дзвюх дачок. І ўсё сама: і за жанчыну, і за мужчыну. Бог не абдзяліў яе ўмелымі, здатнымі да любой працы рукамі, сялянскай кемлівасцю і хітрынкай. Вось толькі лёсу шчаснага не наканаваў. Толькі выраслі дочкі, засвяцілася вокнамі новая хата, і, здавалася б, можна было разагнуцца ад працы, уздыхнуць на поўныя грудзі, як памерала родная сястра, пакінуўшы траіх сірот. Малодшых, Люду і Валодзю, яна ўзяла да сябе, не магла дапусціць, каб аддалі іх у інтэрнат. І зусім падарвала яе душэўную моц, здароўе раптоўная смерць 28-гадовай дачкі. Як вытрымала мацярынскае сэрца, як не разарвалася на часткі ад нясцерпнага болю? Мабыць, трохгадовы ўнук Сашачка і ўратаваў яе тады. Як і пляменнікаў, забрала яна яго, сірату пры жывым бацьку да сябе, адпойвала сырадоем, берагла, як магла. Алену, сястрычку яго, якая ў Мінску ў цёткі засталася, на кожныя канікулы забірала. І замуж тут яе аддала за хлопца з суседняй вёскі.

...Набраў першы сакратар пасля яе споведзі нумар тэлефона калгаснага старшыні. Кароткая была размова, але з тае пары пакінуў ён яе ў спакоі, нават прабачэння прыходзіў прасіць.

Так і жыве яна тут, сярод сваіх маўклівых сяброўак-бяроз. Усім сябе забяспечвае, толькі па хлеб у магазін ходзіць. Аднаго парсючка трымае для сябе, а другога - для пляменніка і ўнукаў, каб падсабіць ім у сталічным пасінаватым жыцці. Гароды садзіць, многа яблынь, вішань, сліў мае. Кароўку трымае. Сыры, тварог па свайму рэцэпту гатуе - нават у суседніх вёсках пра іх смак ведаюць. Гэтай вясной прыехала з Разані старэйшая дачка, каб забраць маці да сябе. І ўпрошвала, і ўгаворвала, і крыўдаваць спрабавала. "Да каго тады прыедуць, калі я з'еду, пляменнікі, унукі, хто іх пачастуе, хто параду дасць?"- у каторы раз задала яна сабе пытанне. Не, напэўна, наканавана ёй лёсам быць вернай усё жыццё гэтаму месцу, радавацца і пакутаваць тут, сярод сваіх бяроз.

Засталася Сліўчыха. Бачыла я яе нядаўна з граблямі ў руках. Сена для сваёй Розы сушыла. А побач з ёй завіхаўся стройны, светлагаловы юнак. Гэта Саша адгулы зарабіў і сярод тыдня дапамагчы ёй прыехаў.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

